# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 46 (559) ГОД XI БЕЛАСТОК, 13 ЛІСТАПАДА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

## У НУМАРЫ



## РЭКВІЕМ

памяці Фэдэрыка Гарсіі Лоркі, іспанскага паэта, расстралянага фашыстамі ў 1936 г.

*падумаць толькі*
*ён мог бы*
*мог бы жыць і пісаць*

*мяцеж фашыстаў*
*а Лорка ў Андалузіі*

*ноччу*
*з 19 на 20 кастрычніка*
*паўп'яныя вывезлі яго*
*з Грэнады*

*і недзе*
*па дарозе*
*прыкончылі выстралам у твар*

*падумаць толькі*
*ён мог бы жыць*

Іван Чыквін

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### ПАДРЫХТОЎКА ДА II ПЛЕНУМА ГП БГКТ

Згодна з раней прынятым планам працы Галоўнага праўлення, асенні яго пленум павінен заняцца аналізам дзейнасці часопіса «Нівы». Вось таму на апошнім пасяджэнні прэзідыума (адбылося 29 кастрычніка) шырока абмяркоўваўся змест публікацый у органе ГП БГКТ.

Тэзісы ацэнкі публікаваных матэрыялаў прадставіў Алесь Барскі. Падчас абмяркоўкі гэтыя тэзісы былі пашыраны і ўзбагачаны. Паслужаць яны для падрыхтоўкі даклада на пленум.

У парадку дня прэзідыума была таксама інфармацыя сакратара ГП БГКТ Уладзіміра Юзвюка аб напрамках працы аддзелаў і гурткоў БГКТ на асенне-зімовы перыяд. Будзе яна зачытана таксама на пленуме.

Па прапанове старшыні камісіі культуры ГП Міхася Хмялеўскага, прэзідыум пастанавіў стварыць пры ГП БГКТ таварыства (або аб'яднанне, або... назву трэба перадумаць) любіцеляў беларускай мовы.

Пастаноўлена таксама, каб БГКТ было калектыўным членам Беластоцкага таварыства культуры.

Вырашана, што II пленум ГП будзе скліканы на 27 лістапада.

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ КУЛЬТУРЫ ГП

29 кастрычніка адбылося першае пасяджэнне камісіі культуры Галоўнага праўлення БГКТ.

Камісія апрацавала план сваёй дзейнасці.

А вось якімі справамі камісія зоймецца на пачатак: у снежні правядзе яна ацэнку рэпертуару для драмгурткоў і для хору БГКТ; у студзені праслухае і абмяркуе рэпертуар эстрады «Лявоніха», а ў маі правядзе аналіз працы клубаў, якія існуюць пры аддзелах БГКТ.

На гэтым пасяджэнні журналіст «Нівы» Вера Леўчук расказала аб працы Кангрэса Польскай Культуры, удзельніцай якога яна была.

### АЎТАРСКАЯ СУСТРЭЧА

У перапоўненай чытальнай зале ГП 30 кастрычніка адбылася аўтарская сустрэча нашага паэта Алеся Барскага з членамі БГКТ гарадскога аддзела. Пісьменнік расказаў аб вытоках сваёй творчасці, прадэкламаваў шмат сваіх вершаў, а таксама прачытаў апавяданне «Вечарынка». Сустрэча закончылася адказамі аўтара на шматлікія пытанні, якія датычылі не толькі яго творчасці, але і наватарства ў сучаснай літаратуры. (мх)

## ВЯЛІКІ КОНКУРС

Паведамляем:

Адбудзецца вялікі чытальніцкі конкурс на беларускую кніжку.

Умовы конкурсу рыхтуюць спецыялісты з Ваяводскай Бібліятэкі.

Удзел прымуць:

ГП БГКТ, Аддзел Культуры Прэз. ВРН., Ваяводская Бібліятэка, Дом Кніжкі, ТППР, Рэдакцыя «Нівы».

Конкурс пачнецца з новым годам і будзе працягвацца да 30 верасня 1967 года.

У лістападзе — месяцы польска-савецкай дружбы і месяцы 50 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі наступіць падсумаванне. Будуць раздадзены ўзнагароды.

Цікаўцеся вялікім конкурсам!

Заслужаных чакаюць узнагароды.

## РАЗМОВЫ АБ БЕЛАРУСКАЙ І СУПОЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

ЯКАЯ ЯНА?
ДЗЕ ЯЕ КРЫНІЦА?
ДЗЕ МАЕ МЕСЦА Ў ЁЙ?

ІНТЭРВ'Ю З ФРАНЦІШКАМ СТАЧКОЎСКІМ, КІРАЎНІКОМ АДДЗЕЛА КУЛЬТУРЫ ПРЭЗІДЫУМА ВРН У БЕЛАСТОКУ.

# ТРАДЫЦЫЯ ЦІ СУЧАСНАСЦЬ

— Ці нашыя дагэтуляшнія метады і формы працы былі добрыя? Ці некаторыя трэба мадэрнізаваць?

— Гэтае пытанне ўстае ў нас з усё большай сілай.

Нашае ваяводства, у параўнанні з іншымі, слаба індустрыялізаванае. Мы ззаду. Але працэс урбанізацыі адбываецца. Таму трымацца традыцыйных форм было б несправядліва. Трэба ствараць гусцейшую сетку пунктаў для масавага ўспрыняцця культуры. Вось бібліятэкі. На 1967 год ёсць у плане 13 новых грамадскіх бібліятэк і 4 гарадскія філіялы. Бібліятэкі — гэта наш найважнейшы зрыў у культуры на наступныя пяць год. У канцы пяцігодкі не будзе ўжо белых плям у сетцы бібліятэк ваяводства.

— Вы ўспомнілі аб традыцыйных формах культурнай працы. Якія такімі назавеце?

— Я гаварыў аб форме і аб'ёме працы культурных аб'ектаў на вёсцы.

— Выступаеце супраць святліц?

— Я не выступаю. Назва не важная. Лічыцца тое, што робіцца. Трэба датрымаць кроку новым часам і новым вымаганням. Найбольш папулярныя цяпер клубы. Мы хочам злучаць дзейнасць усіх вясковых аб'ектаў, ствараючы комплексныя цэнтры культуры. Пры іх будзе гуртавацца культура, яе ўсебаковы рух. Усё больш на вёсцы інтэлігенцыі і на ёй спачывае галоўнае заданне набліжаць культуру да мас.

— Значыць, набліжэнне культуры да мас вы бачыце не ў традыцыйным народным руху, але ў вучонай частцы вясковай грамадскасці — яе інтэлігенцыі?

— Гэта пытанне дыскусійнае.

— Але як доўга будзем ехаць на народным коніку?

Ці не час рушыць шырокім фронтам новай культуры і новых форм?

— Народную культуру трэба захоўваць і традыцыя мае сваё месца ў сучаснай культуры. Толькі гэта не значыць, што ўсюды трэба арганізаваць калектывы песні і танца. Такія калектывы, як гэта было даўней, не павінны быць над усімі іншымі формамі. Напрыклад, моладзь моцна горнецца да эстрадных форм. І гэта добра. Быў час, што мы штучна стваралі народныя калектывы.

— А цяпер нічога штучна?

— Нічога. Трэба людзям падаваць сучасныя вартасці. Многа змянілася. Таварыскія суадносіны з горада пераходзяць на вёску. Гінуць розніцы. Клубы, комплексныя цэнтры культуры, памагаюць гэтаму працэсу.

— Добра ці дрэнна, калі вёска мае амбіцыі горада?

— Тут мой адказ такі: электрыфікацыя, радыё, тэлевізія, фільм — усё гэта, хочам мы ці не хочам, зближае вёску да горада. Мы хочам ствараць вёсцы ўмовы, каб карысталася тым, чым і горад.

— Ці наша цяперашняя пяцігодка, акрамя бібліятэк, вырашыць таксама сетку іншых культурных аб'ектаў на вёсцы?

— Значна палепшыць. Асабліва многа

(Працяг на стар. 5)

## ДА 60-ГОДДЗЯ „НАШАЙ НІВЫ"

р. 27844

Год 1. Вильня 17/30 листопада (ноябра) 1906 г. № 2.

# Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими літэрами.

Адрэс рэдакціи и администрации: Вильня, Большая Погулянка д. № 17. Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

«Наша Ніва» (9.XI.1906 — 7.VIII.1915) — адна з найвыдатнейшых з'яў у гісторыі беларускай культуры — была прадаўжальніцай «Нашай Долі», газеты, якая за свой радыкалізм заплаціла пяццю сканфіскаванымі нумарамі і на шостым нумары спыніла сваё жыццё. «Наша Ніва», як і яе папярэдніца, выходзіла па ініцыятыве Беларускай Сацыялістычнай Грамады — прагрэсіўнай арганізацыі, шукаючай выхаду з маразму беларускага нацыянальнага жыцця. Развіццё беларускай прэсы і адраджэнне беларускай літаратуры было цесна звязана з рэвалюцыяй 1905 года, якая прынясла аслабленне царскага рэжыму і стварыла значныя магчымасці для развіцця народаў, уваходзіўшых у склад рускай імперыі. «Наша «Ніва» ў адрозненне ад «Нашай Долі», акцэнтуючай неабходнасць распальвання класавай барацьбы, дэкларавала гатоўнасць служэння ўсяму беларускаму народу, усім класам і станам: «Не, не думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу». Нягледзячы на гэтую дэкларатыўную гатоўнасць служэння і панам і сялянам, ні ў публіцыстыцы, ні ў літаратурных творах, замешчаных у «Нашай Ніве», не можам знайсці прыкладаў служэння панам і памешчыцтву. «Наша Ніва» была і ў сваёй форме і ў сваім змесце газетай сялянства, якое атаесамлівалася нашаніўцамі з нацыяй, з народам. Монакласавая канцэпцыя беларускага народа, бытуючага сярод нашаніўцаў, не была пазбаўлена лагічных падстаў з увагі на масавае рэнегацтва беларускіх памешчыкаў, буржуазіі і інтэлігенцыі. Ідэйная накіраванасць «Нашай Нівы» выказвала супольныя рысы з праграмай польскага пазітывізму, які імкнуўся да адраджэння нацыянальнага жыцця шляхам гаспадарчага прагрэсу, мадэрнізацыяй вёскі, асветы шырокіх слаёў грамадскасці. Выдаўца «Нашай Нівы» Антон Луцкевіч так фармуляваў галоўны кірунак часопіса: «Мэтай сваёй «Наша Ніва» назначыла працаваць дзеля культурнага і эканамічнага падняцця беларускага краю і народу, развіваць у беларусаў нацыянальную свядомасць, будзіць пачуццё грамадзянскай і чалавечай годнасці і, крэпка злучыўшы ў адно раздзеленае рэлігіяй дзве часці беларусаў католікаў і праваслаўных, развіваць нацыянальную душу беларускага народа» (А. Навіна (А. Луцкевіч). На дарозі да новага жыцця, Маладая Беларусь, Пецярбург 1912 год с. 22).

Нас перад усім цікавіць літаратурны аспект «Нашай Нівы», якая сталася галоўным цэнтрам беларускіх пісьменнікаў і цэнтрам адраджэння беларускай літаратуры. На старонках «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» дэбютавалі і пасля

(Працяг на стар. 5)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### УРАДАВЫ КРЫЗІС У ФРГ

Беспасрэднай прычынай крызісу былі справы бюджэтныя, грашовыя, хоць за гэтым крыюцца многа глыбейшыя, знешнія справы ФРГ. Але затрымаемся на бюджэце. Бюджэт ФРГ, дзе на выдаткі прадбачваецца каля 74 мільярдаў заходнегерманскіх марак, мае прынесці каля 5 мільярдаў марак дэфіцыту. У гэткай сітуацыі бонскі ўрад пастанавіў паменшыць фонд на сацыяльную апеку, на сямейныя дадаткі людзям працы, на пенсіі пацярпеўшым у вайне. Нязгода між урадавымі групіроўкамі паўстала тады, калі пастаўлена дылему: павысіць падаткі — ці іх не павышаць? Але ніхто з членаў бонскага ўрада не высунуў найпрасцейшай прапановы. Дазволіла б яна не толькі на паменшванне фонду на сацыяльныя выдаткі і пазбегла б павышэння падаткаў, але выдатна павялічыла б бюджэт дзяржавы ў тых галінах, якія непасрэдна ідуць у карысць грамадзян. Прапанова гэта называецца: **паменшыць ваенны бюджэт.**

Утрыманне і ўзбраенне бонскай арміі, авіяцыі і ваеннага марскога флоту за год выносіць 18,2 мільярда марак. Дадаткова 3 мільярды Бон выплачвае ЗША і Англіі, як кампенсацыю за ўтрымоўванне ў ФРГ брытанскіх і амерыканскіх войск.

ФРГ мае зараз найбольш шматлікую армію ў заходняй Еўропе — **паўмільёна салдат.** Паўтараем: ніхто з бонскага ўрада не шукае ў гэтым параграфе бюджэту магчымых ашчаднасцей. Усё — толькі не стрыманне мілітарызацыі.

### ДЭ ГОЛЬ АБ В'ЕТНАМСКАЙ ВАЙНЕ

**«Мы лічым зусім агіднай тую акалічнасць, што маленькі народ падвяргаецца бамбардзіроўкам з боку вялікага народа»,** і што ЗША павінны захоўваць прынцып, згодна з якім кожны народ мае права «**самастойна ўладкоўваць свае справы паводле свайго густу і сваімі сродкамі. Гутарка ідзе аб тым, каб амерыканцы ўжывалі гэты прынцып у адносінах да в'етнамскага народа».**

### У 49-ТЫМ ГОДЗЕ ПАСЛЯ РЭВАЛЮЦЫІ

■ **53% насельніцтва СССР жыве ў гарадах,** гэта больш, чым у Польшчы. У нас у бліжэйшых месяцах толькі зраўняецца колькасць насельніцтва вясковага і гарадскога. Перад рэвалюцыяй у гарадах Расіі жыло толькі **18% насельніцтва.**

■ СССР займае **першае месца** ў свеце ў прадукцыі м. інш. цэменту, жалезнай руды, цукру і другое месца м.інш. у прадукцыі электрычнай энергіі, вугля, нафты, сталі.

■ У СССР прапарцыянальна ў **два разы больш студэнтаў,** чым у Польшчы: у нас на кожныя 10 тысяч жыхароў вучыцца ў вышэйшых установах 80, а ў СССР — 167.

### АМЕРЫКА

Нью-йорская паліцыя выкрыла чарговы склад зброі «мінітменаў» — ваенізіраванай фашыстоўскай арганізацыі ў ЗША. «Мінітмены добра ўзброены, маюць яны кулямёты, гранаты, а таксама мінамёты і безаддачныя гарматы.

A.K.

## БССР

У Савеце міністраў Беларускай ССР

### АБ ПРЫСУДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ БССР 1966 ГОДА

Савет Міністраў Беларускай ССР пастанавіў прысудзіць Дзяржаўныя прэміі БССР 1966 года за выдатныя творы літаратуры, мастацтва і выканаўчае майстэрства:

а) У галіне літаратуры:

імя Янкі Купалы — Максіму Танку (Скурко Я. І.) за кнігу вершаў «Мой хлеб надзённы»;

імя Якуба Коласа — Пашкевічу Н. Е. за зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў «На шырокіх шляхах жыцця»;

б) У галіне музыкі — Шырме Р.Р., народнаму артысту СССР, за канцэртна-выканаўчую дзейнасць;

в) У галіне тэатральнага мастацтва і кінематаграфіі: Няфёду У. І. за кнігі: «Станаўленне беларускага савецкага тэатра», «Тэатр у вогненныя гады», «Сучасны беларускі тэатр»;

Гутковічу А. З., рэжысёру-пастаноўшчыку, Пранько В.А., галоўнаму тэлевізійнаму аператару, Стоме З.Ф., выканаўцу ролі Глушака, Давідовіч Л.М., выканаўцы ролі Ганны, Гарбуку Г.М., выканаўцу ролі Васіля, Тарасаву В.П. выканаўцу ролі Яўхіма, — за тэлевізійны спектакль «Людзі на балоце».

### У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Вырабы Мінскага фарфора-фаянсавага завода.

## ПОЛЬШЧА

### КАСТРЫЧНІЦКАЕ СВЯТА

Цэлая наша краіна ўрачыста адзначала 49-тую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гарады і пасёлкі ўпрыгожыліся чырвонымі і бела-чырвонымі сцягамі, ды транспарантамі. На цэнтральнай сцяне гмаху Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Варшаве над вялікім партрэтам Леніна віднеў лозунг: «Хай жыве і змацоўваецца братэрская дружба народаў Польшчы і Савецкага Саюза!» Ва ўсіх ваяводскіх і павятовых цэнтрах адбыліся ўрачыстыя пасяджэнні прадстаўнікоў працоўных, на якіх прысутныя знаёміліся з заваяваннямі савецкай улады і дэманстравалі непарушную дружбу з вялікім Савецкім Саюзам. У адной толькі сталіцы ўрачыстыя пасяджэнні адбываліся ў звыш 200 прамысловых прадпрыемствах.

### ПАРТСХОД У ЖЭРАНСКАЙ ФАБРЫЦЫ

У суботу 5-га лістапада г.г. адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя завадской партыйнай арганізацыі жэранскай фабрыкі легкавых аўтамашын, якая выпускае папулярныя «Варшавы» і «Сірэнкі». Калектыў фабрыкі рыхтуецца да выпуску новай аўтамашыны.

У гэтай канферэнцыі прыняў удзел I сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП тав. Уладзіслаў Гамулка, які з'яўляецца членам гэтай партыйнай арганізацыі. Калі закончыліся спрэчкі аб завадскіх справах, голас папрасіў тав. Гамулка і выступіў з абшырнай прамовай. Затым рабочыя жэранскай аўтамашыннай фабрыкі: Станіслаў Кісялінскі, Барбара Брухала, Раман Скавыра атрымалі з рук I-га сакратара ЦК ПАРП Ул. Гамулкі і I-га сакратара Варшаўскага сталічнага камітэта ПАРП Станіслава Кацёлка партыйныя білеты. Навапрынятыя таварышы з'яўляюцца перадавымі працаўнікамі завода. За імі доўгі стаж працы.

### У СЕЙМЕ

У сераду 9-га лістапада Сейм Польскай Народнай Рэспублікі сабраўся на агульнае пасяджэнне. Асноўнай справай, якую мае вырашыць заканадаўчая палата, з'яўляецца абмяркоўка і зацверджанне праекту 5-цігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі. Звыш двух месяцаў паасобныя раздзелы гэтага праекта падрабязна разглядалі на сваіх пасяджэннях спецыялістычныя сеймавыя камісіі. Камісія гаспадарчага плана бюджэту і фінансаў сабрала ўсе папраўкі ад паслоў і падрыхтавала дакладна пленарнае пасяджэнне.

### ЖАЛОБНАЯ ХРОНІКА

У Вашынгтоне нечакана памёр пасол Польшчы ў ЗША Эдвард Дрожняк. Прычынай смерці была хвароба сэрца. Астаткі пакойнага пасла Эдварда Дрожняка самалётам прывезлі ў Варшаву і пахавалі на Павонзкоўскім могільніку ў Варшаве.

## ВАЯВОДСТВА

### У ГОНАР КАСТРЫЧНІКА

Як і ў іншых гарадах краіны, працоўныя Беластока і Беласточчыны ўрачыста адзначалі 49 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У беластоцкім тэатры адбыўся ўрачысты канцэрт, а ў чытальні Ваяводскай і гарадской бібліятэк удзельнікі рэвалюцыі расказвалі аб сваіх перажываннях. Выступілі таксама акцёры тэатра «Экспрэсія».

З нагоды 49 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Экзекутыва ВК ПАРП у Беластоку, Прэзідыум Ваяводскага праўлення ТППР, Прэзідыум Ваяводскага камітэта ЗСЛь і Прэзідыум Ваяводскага камітэта Стронніцтва дэмакратычнага выступілі са святочнымі прывітаннямі да ўсіх працоўных Беласточчыны, жадаючы ім поспехаў у працы і ў асабістым жыцці.

### СУСТРЭЧЫ З ПРАДСТАЎНІКАМІ САВЕЦКАГА ПАСОЛЬСТВА

На Беласточчыне пабывалі прадстаўнікі Савецкага пасольства ў Польшчы: I сакратар пасольства, Іван Лукоўнікаў і III сакратар, тав. Харчэнка. Яны сустрэліся з насельніцтвам Элка, Галдапа, Беластока, а таксама пабывалі на прыёме ў членаў Экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Прадстаўнікі Савецкага пасольства знаёмілі з дасягненнямі савецкіх народаў у камуністычным будаўніцтве. Яны расказвалі аб крыніцах савецка-польскай дружбы.

### ДЗЕСЯТЫ ГОД ФАСТАЎ

Фастаўскі баваўняны камбінат зараз шырока вядомы ў нашай краіне і ў свеце. У фастаўскім камбінаце працуе амаль 6 тысяч рабочых, пераважна жанчын.

Праязджаючы побач камбіната цяжка паверыць, што яму ўсяго толькі 10 год, што 15 год таму назад на месцы цяперашніх прасторных цэхаў і жылых дамоў пераліваласяя залатое збожжа. Большасць фастаўскіх рабочых у персанальных лістках піша: «па паходжанню — селянін». Амаль кожная вёска мае свайго прадстаўніка ў Фастах. Таму гэты завод так непарыўна звязаны з Беласточчынай. Ён тысячам вясковых хлапчукоў пракладаў дарогу з вёскі ў горад — у шырокі свет.

Фастаўскі камбінат будаваўся і разбудоўваўся безупынна. Каштаваў ён дзяржаву звыш аднаго мільярда 100 мільёнаў злотых. Але за гады свайго прадукцыйнага існавання даў ужо прадукцыю, якой вартасць у тры разы перавысіла кошт пабудовы.

У нядзелю 6 лістапада г.г. шматтысячны калектыў фастаўскага камбіната ўрачыста адзначыў сваё дзесяцігоддзе. На ўрачыстасці прыбылі: член Палітбюро ЦК ПАРП, тав. Францішак Ванёлка, міністр лёгкай прамысловасці Яўгень Ставінскі, і іншыя. Ваяводскія ўлады прадстаўлялі: I сакратар ВК ПАРП, тав. А. Лашэвіч і старшыня Прэзідыума ВРН, тав. Ст. Жмійка.

Многім рабочым фастаўскага кімбіната ў дзень яго юбілею прысвоена высокія дзяржаўныя адзнакі, якія ўручыў тав. Ф. Ванёлка.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 13.XI.

8.30 Politechnika TV: Geometria wykreślna: „Wielościany"; 9.05 Politechnika TV. Chemia: „Chleb i węgiel"; 9.35 34 lekcja jęz. ros.; 9.55 Politechnika TV. Matematyka: „Papier funkcyjny" cz. I; 10.25 Program dnia; 10.30 P.K.F.; 10.40 Film; 11.00 „W świecie sztuki" (Bratysława); 11.45 Wiad. dz. tv; 12.00 Sprawozdanie sportowe; 13.30 Sprawozdanie sportowe; 14.15 Koncert; 15.05 „Przemiany"; 15.30 Teatr Młodego Widza: Gustaw Morcinek: „Narodziny serca"; 16.30 „Brzeg morza" — film („Czterej pancerni i pies") — ostatni odcinek; 17.20 „Mecenas Kowalski" odc. IV; 18.05 „Sonda" — teleturniej; 18.55 „Słownik Wyrazów Obcych"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 Recital piosenkarski Wiktora Biesiedina; 20.35 „Laureat Archimedesa"; 21.05 Niedziela Sportowa; 21.25 „Zagłada eskadry" — film fab. radz.; 23.30 Wiad. sportowe.

PONIEDZIAŁEK, 14.XI.

16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Skarby w szufladzie"; 17.30 „Na stancji" („7 milionów młodych"); 17.45 „Giełda reporterów"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Ziemia płonie" — film radz.; 20.15 Teatr TV: „Szósty lipca" Michała Szatrowa; 21.55 „Na półkach księgarskich"; 22.05 Reportaż; 22.25 Dz. TV.

WTOREK, 15.XI.

10.00 „Karambol" — film fab. węg.; 11.30 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — Maksym Gorki „Jegor Bułyczow" („Dzieje dramatu"); 12.25 Przerwa; 16.00 Politechnika TV. Matematyka — „Papier funkcyjny" cz. II; 16.30 Politechnika TV. Matematyka — „Pojęcie granicy i ciągłości cz. I; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla dzieci: „Zręczne ręce"; 17.20 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór"; 17.50 Informator handlcwy; 17.55 Kurs Rolniczy: „Odmiany ziemniaków" („Produkcja ziemniaków"); 18.25 „Śląskie Eldorado" — teleturniej; 18.55 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 Karambol" — film fab. węg.; 21.45 „Na wielkim ekranie" — „Szwedzka nowa fala"; 22.15 Dz. TV; 22.30 Program na jutro; 22.35 Politechnika TV. Matematyka — „Papier funkcyjny" cz. II; 23.05 Politechnika TV. Matematyka — „Pojęcie granicy i ciągłości" cz. I.

ŚRODA, 16.XI.

10.00 „Skradzione ikony" — film („Baron"); 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Z wizytą w Ministerstwie"; 11.25 Przerwa; 15.55 35 lekcja jęz. ros.; 16.15 Program dnia; 16.20 Przypominamy, radzimy"; 16.30 PKF; 16.40 „Upiór" — film rozrywkowy; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 17.20 Dla młodych widzów: „Jak zostaliśmy poszukiwaczami skarbów"; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 Wszechnica TV: „Świat grafiki" („Jak patrzeć na dzieło sztuki"); 18.25 Francuskie melodie rozrywkowe; 18.50 „Dobry wieczór, jak minął dzień?"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Film; 20.15 „Skradzione ikony" — film („Baron"); 21.05 „Światowid"; 21.35 „Uszike" — opera oparta na tematach japońskich; 22.20 Dz. TV.

CZWARTEK, 17.XI.

10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Stefan Żeromski" („Spotkania"); 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Miasto na siedmiu pagórkach"; 12.25 Przerwa; 16.20 34 lekcja jęz. franc.; 16.40 Program dnia; 16.50 Wiad. dz. TV; 16.55 Dla dzieci: Kino „Ptyś"; 17.15 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.40 „Medale i detale"; 18.00 „Asocjacje" — teleturniej; 18.30 „Klub dobrych gospodarzy"; 18.55 „Hotel w obłokach" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Filmowy program rozrywkowy; 20.30 „Po wypadku" — program społeczny; 21.00 Teatr KOBRA: „Hades nadal przyjmuje" — sztuka sensacyjno-kryminalna; 22.00 Dz. TV; 22.20 34 lekcja jęz. franc.

PIĄTEK. 18.XI.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii — „Marksistowska filozofia człowieka"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. III) „Zuchy"; 13.05 Przerwa; 16.25 35 lekcja jęz. ang.; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Wyprawy TV Przyjaciół" — „Wspólny grosz"; 17.30 Dla dzieci: „Na drodze do Wielkiej Przełęczy" — film („Bella i Sebastian"); 18.00 „Kryptonim PL"; 18.20 „Wielokropek"; 18.40 Wszechnica TV: „Laser" („Perspektywy"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Marta" adapt. opery Fr. Flotowa; 21.45 „Rozmowy o książkach"; 21.55 Dz. TV; 22.15 35 lekcja jęz. ang.

SOBOTA, 19.XI.

10.00 „Trzy kamelie" — film fab. USA; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Nizina Śląska"; 12.25 Przerwa; 14.50 „Dzień wojsk rakietowych" — (Moskwa); 15.30 Przerwa; 16.00 Program tygodnia; 16.15 „Mój wychowawca" — program z okazji Dnia Nauczyciela; 16.30 — film; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 „Dolnośląska Kronika Dziewcząt i Chłopców"; 17.20 Dla dzieci: Claude Aveline „Historyjka o słoniu, który chciał uchodzić za komara"; 17.40 „Gawędy wilków morskich"; 17.55 Sprawozdanie sportowe; 18.40 Tele-Echo; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Zasadzka" — film („Belphegor czyli upiór Luwru"); 20.35 „Trzy tysiące sekund z Andą Kitchmann" — program rozrywkowy; 21.25 Dz. TV; 21.40 Wiadomości sportowe; 21.50 „Trzy kamelie" — film fab. USA.

 

# Крок перад граніцай



Цягнікі міжнароднага курсіравання прыходзяць у Кузніцу два разы ў дзень: раніцай і пасля абеда. Далей ім дарога закрыта. Сляпы лёс і гісторыя авансавалі спакойны, хлебаробніцкі пасёлак Сакольскага павета да ўзроўню важнага цэнтра міжнароднага абмену.

Вялікі будынак вакзала з прасторным рэстаранам, у якім на сталах белыя абрусы і кветкі ў флаконах. Не адна павятовая станцыя не можа з ім раўняцца, нават беластоцкаму вакзалу ён нямнога ўступае. Зараз за станцыяй — новыя жылыя дамы: мураваныя, гарадскога тыпу, быццам смяюцца яны над даўнейшымі вясковымі хатамі. Мясцовыя крамы косяць вочы на гарадскі гандаль. Кузніца з'яўляецца выставачнай вітрынай Польшчы, і слушна робяць гаспадары пасёлка і іх начальнікі ў павеце ды і вышэй, што дбаюць, каб замежныя госці вынеслі прыемнае ўражанне з першага сутыкнення з нашай краінай.

Гадзіна 10.30 раніцы. З Беластока прыходзіць хутка цягнік. Вязе пасажыраў з усіх куткоў краіны. З другога боку перона стаіць другі цягнік, але ўжо савецкі.

Гурмою высыпаліся пасажыры з польскага цягніка. Кожны аж гнецца пад цяжарам чамаданаў. Хопіць ім ступіць два крокі і ўжо былі б у савецкім цягніку. Але туды дарога вядзе праз таможню. Ля ўвахода — пагранічнікі, праверка дакументаў. Гэта праходзіць спраўна. Кожны, хто легальна выбіраецца за мяжу, мае ж дакументы ў парадку. Далей — даўгаваты калідор, а ўздоўж яго — бетонная лава. Вышліфаваная чамаданамі, блішчыць, як шкло. За лавай — таможнікі. Тры мужчыны і адна жанчына.

Тут пачынаецца хваляванне. Гэты дваццаціметравы адрэзак дарогі для большасці пасажыраў з'яўляецца найважнейшым у цэлым доўгім замежным падарожжы.

Спыняюся пад акном і сачу за працай таможнікаў і паводзінамі пасажыраў. Таможнікі, бы з магнітафоннай плёнкі, паўтараюць без перапынку: «Што перавозіце? Ці ёсць у вас савецкія грошы, колькі? А колькі польскіх?»

Сотні людзей напірае на бетонную лаву. Кожны хоча хутчэй атрымаць неабходную пячатку і вынесці ненарушаны свой чамадан. Ілбы прэюць ад поту, вочы бегаюць неспакойна, рукі трасуцца. Таможнікі працуюць хутка і спраўна, але спакойна. А нервы ім трэба мець са сталі.

З Польшчы ў Савецкі Саюз можна вывесці столькі розных тавараў, каб іх **супольная вартасць не перавышала адной тысячы злотых.** Пасажыры аб гэтым забываюць, або не хочуць памятаць. Для многіх паездка ў Савецкі Саюз або вяртанне з пабыўкі ў Польшчы з'яўляецца дасканалай нагодай для гандлёвай нажывы. Вось і ў таможні пачынаецца першы акт трагедыі.

Чую жаночы плач. Азіраюся — і бачу горбу світрыкаў, блузак, нейкіх нейлонаў, стылонаў ды другіх шматак. Жанчына-таможнік, як сарціроўшчыца на фабрыцы, прывычнымі рухамі раскідае ўсе гэтыя шматкі на дзве кучкі. Усё, што на адной, дазваляецца перавозіць, а за ўсё, што на другой — трэба плаціць пошліну (цло). Жанчына плача, просіць, гаворыць, што не мае грошай. Але гэта ўжо таможнікаў не датычыць і не можа датычыць. Яны выконваюць дзяржаўныя распараджэнні.

У таможні апусцела. Начальнік станцыі дае савецкаму цягніку сігнал ад'езду. Калі савецкі цягнік развітаўся з намі сігнальным гудком, пытаю начальніка кузніцкай таможні Тадэуша Враноўскага аб цяжкасцях іх працы.

— Працую тут ад пачатку, — гаворыць ён, — ад 1957 года, і заўсёды адно і тое ж: многія пасажыры не прытрымоўваюцца ўстаноўленага дзяржавай парадку. Дзённік пастаноў нумар 42 ад сакавіка г.г. выразна падае, што можна, а чаго не можна. Людзі аднак па сваёй наіўнасці думаюць: «А ну ж удасца». Едучы ў Савецкі Саюз цягнуць горбамі світры, кашулькі, артальёнавыя плашчы, нейлонавыя і другія ім падобныя вырабы. Вяртаючыся, з Савецкага Саюза вязуць залатыя гадзіннікі, пярсцёнкі і брошкі, каракулавыя футры, транзістарныя радыёпрыёмнікі і фотаапараты. А мы без пошліны можам прапусціць толькі на паўтары тысячы.

Людзі прабуюць нас абхітрыць, схаваць недзе свой тавар, але мы за дзевяць год працы дакладна пазналі ўсе спосабы кантрабанды.

Тэкст і фота **В. Рудчык**

# Вясковы прыход пад мікраскопам

Чарговыя кніжкі польскага сацыёлага — рэлігіязнаўцы Эдуарда Цюпака штораз лепш знаёмяць нас з істотай і характарам вясковай рэлігійнасці з т.зв. праблематыкай вясковага прыходу («парафіі»)

На думку Цюпака вясковай рэлігійнасцю цікавіцца варта таму, хто хоча зразумець вясковую культуру, таму што рэлігійнасць гэтая ў традыцыйнай вёсцы з'яўляецца формай яе культурнага і грамадскага жыцця. Словам рэлігія ў традыцыйнай вёсцы — гэта не толькі рэлігія, але і адпачынак, і мастацкая самадзейнасць, і арганізацыя грамадскага жыцця, і шмат іншых рэчаў.

Адна з кніжак Цюпака — «Parafianie?» прысвечана амаль у цэласці жыццю сучаснага прыхода ў Беластоцкім ваяводстве, названага аўтарам ўмоўна — Загурова. Дазваляе гэта прынамсі прыблізна параўнаць каталіцкі вясковы прыход Беласточчыны з такім жа прыходам праваслаўным.

Цэнтральнай постаццю ў прыходзе з'яўляецца постаць мясцовага ксяндза («пробашча»). Аўтар паказвае шматлікія і разнастайныя формы ўздзеяння «пробашча» на прыхаджан, прытым адзначае, што інтэнсіўнасць ідэалагічна-выхаваўчага ўздзеяння ксяндза ў апошнія гады выразна ўзрастае. Падрастаючыя дзеці праходзяць шматгадовы працэс «катэхізацыі» (выхаваўчай падрыхтоўкі да «хрысціянскага» жыцця), маладажоны праз тры тыдні пераходзяць маральна-светапоглядныя павучэнні закончаныя «экзаменам», прыхаджане часта звяртаюцца да кіраўніка парафіі ў пошуках дапамогі ў складаных праблемах сямейнага і суседскага жыцця.

Не цяжка заўважыць, што гэтыя і шмат іншых форм дзейнасці каталіцкага прыхода ў прыходзе праваслаўным або не існуюць наогул, або існуюць у рэшткавай, моцна зменшанай форме. Больш таго — параўнанне распрацовак Цюпака з гісторыі каталіцкага прыхода, хаця б з тымі звесткамі аб рэлігійным жыцці праваслаўных вёсак, якія пераказваюць нам этнаграфічныя матэрыялы Машыньскага, Пяткевіча і часткова Федароўскага — паказвае, што заўсёды ў мінулым існавала розніца паміж каталіцкімі і праваслаўнымі прыходамі ў інтэнсіўнасці рэлігійнага жыцця, а перад усім у ролі і месцы цэнтральнай постаці прыхода, яго настаяцеля, святара.

Улічваючы ўспамянутую вышэй цесную сувязь рэлігійнасці вёскі з цэласцю яе культурнага жыцця разрозненні гэтыя не маглі выразіцца ў характары гэтага жыцця, у характары народнай культуры.

Звяртае на гэта ўвагу, між іншым, польскі сацыёлаг і людазнаўца Ян Станіслаў Быстрань у выдадзенай у 1936 годзе кніжцы «Kultura ludowa». Быстрань сцвярджае, што праваслаўныя святары мелі значна меншы ўплыў на знішчэнне традыцыйнай народнай культуры і замену яе элементамі хрысціянскай рэлігійнасці. Прычыну такой сітуацыі Быстрань бачыць, па-першае, у ніжэйшым інтэлектуальным узроўні праваслаўных святароў у параўнанні з каталіцкімі, па-другое — у тым, што вялі яны, як і ўсе сяляне, звычайнае сямейнае жыццё, і па-трэцяе — у пэўных асаблівасцях іх юрыдычнага становішча дыскрымінуючага іх у параўнанні з духавенствам каталіцкім і тым самым набліжаўшага праваслаўных святароў да вёскі.

Зрэшты на гэтыя справы значна раней, бо ў першых гадах мінулага стагоддзя, звярнуў увагу Зор'ян Хадакоўскі, які ў палымяным маніфесце ў абарону дахрысціянскай культуры славян сцвярджаў, што праваслаўнае духавенства не знішчала так зацята гэтай культуры, але неаднойчы дастасоўвалася да славянскіх язычаскіх абрадаў і захоўвала іх.

Магчыма, што сцверджанні Хадакоўскага былі перабольшаныя, тым не менш застаецца фактам, што праваслаўныя беларускія вёскі захавалі параўнальна многа дахрысціянскіх, язычаскіх элементаў рэлігіі і культуры, і што нейкую ролю ў тым адыгрывала сітуацыя праваслаўнага духавенства і праваслаўнага прыхода.

**Ул. Паўлючук**

**А. Баршчэўскі, В. Швед**

# Дружба і праца

**ЧАРНАВОЧКА**

**З настаўнікаў свайго класа дзеці найбольш любілі Івана Рыгоравіча. Мусіць, таму і далі яму другое простае і ласкавае імя — дзядзя Ваня. Іван Рыгоравіч быў класным кіраўніком, а дзядзя Ваня — лепшым сябрам. Іван Рыгоравіч выкладаў родную мову, а дзядзя Ваня часта, як роўны з роўнымі, любіў «зрэзацца» з заўзятымі класнымі шахматыстамі, наладжваў гульні, вадзіў на экскурсіі, і, апрача ўсяго, цікава апавядаў розныя гісторыі. Але найбольш любілі дзеці слухаць яго апавяданні з партызанскага жыцця.**

**Аднойчы на ўроку англійскай мовы Коля, якога за круглыя пяцёркі па арыфметыцы сябры найчасцей так і называлі «арыфметыкам», узняў бунт супроць замежных моў. «Навошта, — кажа, — дарэмна толькі галаву ламаць. Хопіць мне і сваёй мовы. Я не збіраюся стаць настаўнікам замежных моў»... Праўда, Коля меў падставы так абурацца: у той дзень ён схапіў двойку ў выкладчыцы англійскай мовы Ларысы Аляксееўны, прытым не першую ў годзе..**

**Даведаўшыся пра Колеў бунт, Іван Рыгоравіч затрымаў клас пасля ўрокаў.**

**— А кім ты сам хочаш быць? — запытаўся ён у Колі. Гэтае пытанне не было для Колі нечаканым. Ён даўно ўжо марыць стаць настаўнікам і абавязкова такім, як Іван Рыгоравіч, гэта значыць ён будзе выкладаць родную мову і апавядаць дзецям цікавыя гісторыі. Ён так шчыра і адказаў на пытанне настаўніка.**

**Іван Рыгоравіч усміхнуўся, задаволены адказам, потым зноў запытаўся:**

**— Дык навошта будучаму настаўніку роднай мовы вучыць арыфметыку?**

**Коля запнуўся? Аб гэтым ён ніколі не думаў. Таму замест адказу ён толькі падняў вышэй плечы і ніжэй апусціў галаву. Дзеці зашумелі, а Іван Рыгоравіч сказаў з ноткай строгасці ў голасе:**

**— Усе гэтыя пытанні даўно вырашаны. Ты, Коля, не праў. Папрасі выбачэння ў Ларысы Аляксееўны і больш так не рабі. Усё, што мы вучым у школе, патрэбна і настаўніку будучаму, і інжынеру, і афіцэру. А што гэта так, раскажу пра адзін выпадак. Сядай.**

**Коля сеў, надзьмуўшыся. У класе настала цішыня. Дзесяткі вачэй глядзелі на настаўніка, з цікаўнасцю чакаючы яго новага апавядання.**

**— Была ў нас сувязная Валя, — пачаў Іван Рыгоравіч. — Да вайны скончыла чацвёрты клас. Праўда, вучылася не ў маёй школе. І мне, прызнацца, шкада, што не ў маёй, бо я і цяпер зайздрошчу тым настаўнікам, якія вучылі яе... Была яна невысокая, танклявая, з чорнымі, як смоль, косамі і такімі ж чорнымі вачыма. І заўсёды прыходзіла да нас з кошыкам у руках. Немцы, канешне, і не здагадваліся, што не па ягады ці грыбы хадзіла ў лес гэтая маленькая дзяўчынка, а што на дне яе кошыка, у патайных сховах, ляжала шыфраваная запіска або нават рэвальвер ці тол... Усё гэта перасылала нам праз Валю гарадская падпольная арганізацыя. Валя маскіравала кошык зверху драбязой. «На хлеб мяняць іду ў вёску», — выстаўляла на паказ яна сваю «краму», калі хто з цікаўных пытаўся, куды ідзе. А памяць мела такую, што мы толькі дзіву даваліся; усё да макулінкі раскажа, дзе і што бачыла. І шчабятуха была, што і сарока не дакажа.**

**У атрадзе ўсе яе ведалі і любілі. «Чарнавочка» — так празвалі мы Валю, і гэтае імя ёй падыходзіла нават больш, чым уласнае. Жыла яна дома з маткай, а бацька быў у нас, у атрадзе.**

**Іван Рыгоравіч зрабіў перапынак, паглядзеў на гадзіннік.**



 



На здымку: Новая школа ў Сямяцічах.

# ШКОЛЫ — ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Рэформа пачатковага школьніцтва патрабуе перад усім новых і лепшых памяшканняў. Новыя сучасныя метады навучання вельмі цяжка, калі не немагчыма, уводзіць у цесных, нанятых памяшканнях. А такіх вельмі многа ў Сямяціцкім павеце. Пабудова школ з дзяржаўнага фонду далёка недастатковая ў параўнанні да патрэб. Таму павятовыя ўлады ў Сямяцічах вырашылі як мага больш выкарыстаць грамадскую ініцыятыву. Напрыклад, у Сыпнях. Вёска тут не малая. Школа васьмікласная, а памяшканняў адпаведных не было. Жыхары вёскі не раз ставілі гэтую справу на рознага тыпу сходах. Але сапраўднае і астатковае рашэнне ў справе пабудовы з'явілася ў мінулым годзе. Усе гаспадары забавязаліся ўплаціць па 500 зл., усё ж трэба было запэўніць 50% коштаў пабудовы. У іншым выпадку дзяржава не магла б дапамагчы ў пабудове. Сабралі. Пабудова распачалася восенню мінулага года. У час нашага наведання (верасень) ужо стаяў будынак роўна з вокнамі. У сяміціцкім аддзеле асветы нас інфармавалі, што магло б быць пабудавана многа больш. Трэба было перапыніць работу на два месяцы па прычыне недахопу будаўнічых матэрыялаў. Каб іх купіць, трэба было афармляць справы аж у Міністэрстве асветы. Выканаўца гэтай інвестыцыі так сама даволі арыгінальны — рамонтная брыгада пры грамадскай радзе ў Чорнай Сярэдняй. Калі матэрыялы будуць паступаць рэгулярна, дык у наступным навучальным годзе дзеці з Сыпняў будуць вучыцца ў новай, з пяццю класнымі заламі кватэрамі для настаўнікаў, школе.

Грамадскія камітэты пабудовы школ створаны і ў іншых мясцовасцях. У Жэрах і Чартаеве ўжо рыхтуюць матэрыялы.

Падобныя камітэты дзейнічаюць у Валках і Харашчэве. Але ёсць і клопаты, і то працэдуральнага характару. Можна гэта назваць нават непаразуменнямі. Ёсць загад, які гаворыць, што дзяржава можа даць дапамогу пры пабудове школы ці святліцы грамадскім чынам у тым выпадку, калі гаспадары забяспечаць 50% коштаў пабудовы. Гэта ведаюць усе і так робяць. Але **непаразуменне заключаецца ў тым, што фірмы, якія прадукуюць зборныя канструкцыі (прэфабрыкаты) не хочуць прымаць заказаў ад грамадскіх камітэтаў, а прымаюць толькі ад будаўнічых прадпрыемстваў. А будаўнічыя прадпрыемствы не хочуць браць такіх інвестыцый, таму што і так перапоўненыя працай.** Так ствараецца зачараванае кола, а траціць на гэтым грамадская ініцыятыва і, вядома, дзеці. Ёсць і іншыя цяжкасці. У Сямяціцкім скардзіліся на недахоп будаўнічага вапна, дошак. Аднак, нягледзячы на гэта, у Сямяціцкім развіваецца пабудова школ грамадскім чынам. Апрача таго, толькі ў гэтым годзе Сямяціцкі павет атрымаў дзве новыя школы з дзяржаўнага фонду: 1000-годкі ў Сямяцічах і Семіхочах.

**А. Карпюк**
фота аўтара

## Курсы гаспадыням

У гэтым асенне-зімовым сезоне адбудуцца ў 620 вёсках Беластоцкага ваяводства курсы гаспадыням, згуртаваным у гуртках КГВ. На гэтых курсах будуць вучыць іх догляду гародніны, рацыянальнага харчавання сям'і і хатняй гігіены, асабліва гігіены жаночага цела.

Гэта першая спроба так масавай арганізацыі падобных курсаў вясковым гаспадыням.

## Каб добра гаспадарыць

У Гайнаўскім павеце ў 49 вёсках арганізуюцца двухгадовыя курсы добрага гаспадарання. Падобныя курсы адбыліся ўжо ў 43 іншых вёсках. Усіх вёсак на Гайнаўшчыне налічваецца 146.

## Як выпрабоўваць цэглу?

Гэта цікава гаспадарам, бо важна ведаць, ці цэгла будзе добрая. Найбольш практычным спосабам выпрабавання цэглы гэта замарожванне на марозе каля дваццаці градусаў і адтайванне яе. Трэба паўтарыць гэта найменш дваццаць разоў і пабачыць, ці не робяцца на цэгле рысы і ці не ламаецца яна.

(ся)

# КУЛІСЫ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ АСВЕТЫ

Пачаўся сезон курсаў для гаспадароў у вёсках. Такія ўжо часы, што ўсяго трэба вучыцца, і дзяды нашы дарэшты трацяць аўтарытэт.

Наколькі мы ахвотныя да навукі, раскажу далей. На пачатак даведаемся, колькі каштуе гэта навука.

Правядзенне двухгадовых сельскагаспадарчых курсаў для гаспадароў Беласточчыны каштавала амаль чатыры з паловаю мільёны злотых. На гэтыя курсы прыходзіла каля сарака тысяч гаспадароў. Сярэдні кошт навучання аднаго гаспадара на такім курсе перавышае 114 злотых. Але не ўсюды, не ва ўсіх паветах, навучанне гаспадара каштуе аднолькава. У паўночных паветах, якія славяцца сваёю развітасцю і начытанасцю, гэты кошт быў шмат меншы. Напрыклад, у Сувальскім павеце, так сказаць, адзін гаспадар каштаваў дзяржаве ўсяго 82 злотых, бо там на курсы прыходзіць многа людзей і таму кошт вядзення такога курсу меншы ў пералічэнні на аднаго гаспадара, удзельніка курсу. Затое, амаль у два разы больш каштуе навучанне нашага беларускага гаспадара на курсе, таму што нашых гаспадароў мала прыходзіць. Для прыкладу скажам, што ў Беластоцкім павеце гэты кошт дасягнуў 158 злотых, у Бельскім павеце — 180 зл.

У беларускіх паветах найбольш распаўсюджана сельскагаспадарчай літаратуры: у Сакольскім павеце амаль дзве з паловаю тысячы кніжак, у Беластоцкім павеце амаль чатыры тысячы кніжак. Аднак жа, відаць, гэта няшмат памагло, каб зацікавіць людзей сельскагаспадарчай навукай.

У заходніх і паўночных паветах можна сказаць, што ў кожнай другой вёсцы існуе сельскагаспадарчы курс. Зазірнем на наш панадворак. Праслаўлены Бельскі павет. Тут налічваецца агулам 228 вёсак, а курсы адбываліся толькі ў 62 вёсках. У Беластоцкім павеце 270 вёсак, у тым ліку і прыгарадныя — курсы адбываліся ў 114 вёсках. У Гайнаўскім павеце 146 вёсак, а курсы адбываліся ў 43 вёсках. У Сакольскім павеце 245 вёсак, курсы адбыліся ў 69 вёсках. Адразу відаць — вельмі слабюсенькі размах. А гонар Бельскага павета ратуе толькі той факт, што тут найбольш спраўна і здольна праведзены і праводзяцца курсы.

Дарэчы будзе дадаць, што гэтыя курсы ў нашых вёсках адбываюцца даволі слаба па віне аграномаў і даязджаючых выкладчыкаў. Частавата бывае так, што гаспадары прыдуць на курс, але ніхто з аграномаў не прыедзе: пачакаюць на яго адну гадзіну—дзве гадзіны і разыдуцца. У Беластоцкім павеце здарылася так аж 75 разоў. Нашы павятовыя ўлады мала цікавяцца гэтымі курсамі: як на іх вучаць, дзе яны адбываюцца, ці ў адпаведным памяшканні, хто прыходзіць на гэты курс, а хто не прыходзіць. Не хачу тут вылічаць імёны тых нядбайных начальнікаў, каб людзі не смяяліся з іх...

Справа сельскагаспадарчай асветы, яе пашырэння ў нашых беларускіх вёсках патрабуе асаблівай клапатлівасці ды намаганняў. Прычына таго знаходзіцца не толькі ў вельмі нізкім агульным узроўні нашых гаспадароў, але і ў агульнай сітуацыі данага павета. Ці ў Саколцы, ці ў Сямяцічах, ці нават у тэкім Бельску, дзе многа розных школ, мала ёсць спецыялістаў па сельскай гаспадарцы, якія патрэбны для вядзення гэтых курсаў. Нашы павятовыя мястэчкі вельмі ўбогія на аграномаў. Таму часта прысылаюць для правядзення курсу такіх людзей, якія слаба знаюцца на сучаснай сельскай гаспадарцы — і наогул на гаспадарцы. Першае лепшае пытанне гаспадара саб'е спанталыку такога настаўніка сівавалосых дзядзькоў, наробіць смеху.

Падарожнічаючы па Гайнаўшчыне, апынуўся я ў адной вёсцы (не буду падаваць яе назвы) дзе расказалі мне, як высмяялі аднаго такога нібы агранома і як ад гэтай смешкі паявілася прымаўка, мабыць і не новая: «Дасць Бог дождж і гром, непатрэбен агроном». Успамінаючы аб агульнай сітуацыі беларускіх паветаў, меў я на ўвазе таксама і тую акалічнасць, што ў нас вельмі рэдкая яшчэ сетка добрых дарог ды далёка не ў кожнай вёсцы ёсць будынак, дзе могуць збірацца людзі, напрыклад, святліца або школа з уласным будынкам. Гэткае сцвярджэнне датычыць, перад усім, Сакольскага павета, Беластоцкага, Дуброўскага і часткова Сямяціцкага паветаў. А і Гайнаўшчына з Бельшчынай няшмат лепшыя тут.

Пачынаецца сезон курсаў для гаспадароў у вёсках, сезон на сельскагаспадарчую асвету. Яе жніво. У гэтым годзе нават у Сакольскім павеце плануецца, дакладней кажучы, ужо запланавана пачаць курсы аж у 71 новых вёсках, дзе і даезду няма, і святліц не відаць, і т.д. Бо, вядомая рэч, што першыя курсы арганізоўвалі і праводзілі ў тых вёсках, дзе найлягчэй было гэта зрабіць. А што будзе з новымі курсамі? Што будзе рабіцца ў гэтых новых вёсках? Цяжка мець перакананне да гэтых новых курсаў, цяжка мець перакананне да таго, што гэтыя курсы будуць адбывацца, як след. Цяжка, бо ведаем лёгкую руку некаторых улад да размашыстага планавання і... апускання вушэй перад цяжкасцямі. Хіба, што возьмуцца памагаць ім больш свядомыя гаспадары. Мне здаецца, што без дапамогі саміх гаспадароў, якія пастараюцца падтрымаць веру не толькі ў сэнс курсаў, але і прыпыніць лёгкадумнага выкладчыка, могуць аказацца зусім бяссільнымі.

Такая падтрымка ўлад ляжыць у інтарэсах нашай вёскі. (СЯ)

**— Не буду доўга затрымліваць вас, раскажу аб галоўным, — працягваў ён апавяданне. — Аднойчы прышла ў атрад сумная вестка: Чарнавочка трапіла ў гестапа... Як потым гэта высветлілася, здарылася гэта зусім нечакана. Раніцай яна збіралася ў атрад з чарговым кошыкам падарункаў для нас. І калі кошык быў ужо спакаваны і ўсё зроблена, як належала быць, у дзверы раптам пастукалі. Чарнавочка падумала, што гэта маці вярнулася з рынка. Але з асцярожнасці аклікнула: «Хто?» У адказ пачула нямецкі вокліч...**

**Ці то былі шпікі, накіраваныя здраднікам, ці выпадковы абход — невядома. Чарнавочка аднак не вельмі напужалася. Яна заўсёды любіла гадаць аб розных планах на выпадак небяспекі, і таму пачала адразу рабіць так, як і належала рабіць па яе плану. Яна адчыніла акно і ўхапілася за вадаспадную трубу. Па гэтай трубе можна было спусціцца проста ў сад. Але ці то ад спешкі, ці то кошык перашкодзіў, — яна не ўтрымалася на гладкай трубе і ўпала з вышыні другога паверху... А калі ўстала, дык адчула пякучы боль у ступні правай нагі. З гарачкі яна яшчэ прабегла некалькі крокаў. Потым пачала паўзці праз сад да суседніх будынкаў. А тым часам немцы паспелі зламаць дзверы і заўважылі яе праз адчыненае акно... Даведаўшыся аб бядзе, у якую трапіла Чарнавочка, мы ўсе дужа засмуткавалі. Цяжка было на сэрцы і ў камандзіра, і ў байцоў. Лішне і казаць, як перажываў такое гора родны бацька. Ён неяк раптам пастарэў, асунуўся. А праз нейкі час прышла ў атрад і маці. Ёй цяпер заставацца дома нельга было. І, гледзячы на пакуты бацькоў, мы яшчэ больш балюча адчулі ўдар, які нанесла нам гестапа.**

**«Што рабіць?» — было ў кожнага ў думках. Мы будавалі розныя планы, як выратаваць нашу любіміцу, і ўсе яны здаваліся нам ненадзейнымі. Заставалася толькі зрабіць налёт на гарнізон ворага. Але сілы ў нас былі не роўныя, і пры няўдачы мы рызыкавалі шмат чым. І колькі не меркавалі, мы зноў і зноў варочаліся да першага пытання: што рабіць? Кожнаму з нас здавалася, што гэта яго родная дачка ў такой страшнай бядзе. Нарэшце, я падышоў да камандзіра.**

**— Дазволь, — кажу, — паспрабаваць шчасця...**

**Камандзір недаверліва глянуў мне ў вочы. А калі я расказаў яму, што прыдумаў, згадзіўся.**

**— Добра, — кажа. — Хоць і адчайны і небяспечны твой план, ды мы — салдаты. Без рызыкі на вайне не бывае. А калі табе будзе цяжка, памятай — гэта ты робіш дзеля Чарнавочкі, нашай партызанскай дачкі!**

* * *

**Праз некалькі дзён, у форме нямецкага палкоўніка, я апынуўся ў канцылярыі нямецкага гестапа. Камендант быў у чыне капітана і дрыжэў перада мною, як трусік. Ён нават не адважыўся праверыць мае дакументы, хоць яны былі ў поўнай спраўнасці. Наконт гэтага ў нас у атрадзе недахопаў не было. Як і належала быць, са мной знаходзіўся мой ад'ютант, — лепшы ў атрадзе стралок Саша, які таксама сёе-тое кумекаў у нямецкай мове. І прыкацілі мы ў гарадок на самай лепшай трафейнай машыне. Камендант аддаў мне рапарт, а я ў сваю чаргу задаў яму некалькі звычайных пытанняў: які настрой у салдат, ці няма дэзерціраў і гэтак далей. Нарэшце, я запытаўся аб арыштаваных — ці ёсць сярод іх асабліва небяспечныя для германскай арміі. Гестапавец паслужліва паказаў мне спіс арыштаваных і пачаў даваць свае тлумачэнні. У спіску значылася і прозвішча Чарнавочкі. Дрыжыкі прабеглі па маім твары, калі я вычытаў гэтае прозвішча. Я задушыў у сабе хваляванне, і паказваючы на год нараджэння, запытаў сур'ёзна:**

**— А гэта блазнота па якой справе?**

**Гестапавец ветліва растлумачыў. Пры гэтым ён са злосцю дадаў, што ад арыштаванай за ўвесь час не вырвалі ніводнага слова. Слухаючы, я ўнутрана хваляваўся, а знешне стараўся рабіць выгляд, што абураны нахабствам малой злачынцы і нават выказаў жаданне саму асабіста застрэліць гэтую... гэтую мілую Чарнавочку!**

**Мне з прыемнасцю было дазволена выканаць жаданне.**

**Прывялі дзяўчынку. Як яна змянілася! Збітая, скалечаная, уся ў сініяках, твар апух... Я ледзь стрымаў слёзы, убачыўшы яе. Беднае дзіця! А яна нават і не зірнула ў мой бок. Чорныя вачаняты былі апушчаны ўніз, і я не мог бачыць, што цяпер з імі сталася.**

**Я ўсхапіўся з крэсла, выняў з кабуры**

 

(Працяг са стар. 1)

# НАША НІВА

змясцілі сотні твораў такія пісьменнікі, як Я. Колас, Ц. Гартны, М. Багдановіч, Э. Пашкевіч, Я. Купала. Усе яны, дзякуючы газеце, атрымалі магчымасць давядзення сваіх твораў да шырокага кола чытачоў, што з'яўляецца асноўнай мэтай усіх літаратурных пошукаў і практык. Няма сумненняў, што ўсе гэтыя пісьменнікі згаджаліся з асноўным ідэйным і нацыянальным кірункам «Нашай Нівы» і што сваёй творчасцю крысталізавалі і акрэслівалі агульны напрамак газеты, якая належала да адной з найбольш радыкальных легальных газет у перыяд рэакцыі. Таму не можна згадзіцца не толькі з фальшывымі ўжо ў сваім корані адмоўнымі ацэнкамі гэтай газеты ў часы культу асобы як газеты рэакцыйнай і шавіністычнай і сталыпінскай, але і з тымі сучаснымі крытыкамі, якія стараюцца давесці, што беларускія пісьменнікі ўтваралі апазіцыйную групу ў складзе рэдакцыі «Нашай Нівы» і не згаджаліся з яе асноўным напрамкам. Пагляды гэтых крытыкаў не ўзмацняюць спасылкі на дыскусію, якая вялася ў «Нашай Ніве» паміж некаторымі пісьменнікамі (Верашчака — Купала), а якая была выразам інтэнсіўных пошукаў выхаду з «плачучага» перыяду ў беларускай літаратуры. Як, зрэшты, мы можам аддзяліць, а тым больш супрацьставіць Коласа ці Купалу «Нашай Ніве», калі вядома, што першы з іх працаваў у яе рэдакцыі, а другі ў 1914 ці 15 годзе быў яе галоўным рэдактарам? Калі б гэты аргумент не пераконваў апазіцыяністаў «Нашай Нівы», варта прывесці некаторыя вытрымкі з выказванняў найвыдатнейшых беларускіх пісьменнікаў аб гэтам часопісе. І так, Янка Купала ў лісце да Б. Эпімаха-Шыпілы пісаў: «Усю душу і ўсе сілы цяпер укладваю ў «Нашу Ніву», каторую стараюся паставіць па сіле магчымасці на належную вышыню» (Я. Купала. Ліст да Э. Эпімах-Шыпілы з канца 1914 года. Аўтабіяграфічныя матэрыялы, Мінск АН БССР. Інстытут Літаратуры імя Янкі Купалы, Фонд рукапісаў с. 7).

М. Багдановіч у артыкуле «Белорусское возрождение» з 1914 года пісаў: «Наша Нива» неустанно напоминала о необходимости чтить права каждого народа, ценить всякую культуру и, закрепляя свои национальные устои, широко пользоваться преобретениями культуры, как польской, так и великорусской и украинской». (М. Багдановіч, «Белорусское возрождение», 1914 год. М. Багдановіч. Збор твораў. Мінск 1928 год, том II с 138).

Я. Колас у аўтабіяграфіі з 1927 года сцвердзіў: «Выхад першых беларускіх газет «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», знаёмства з Уласавым, з дзеячамі беларускіх часопісаў палажылі рэзкую мяжу ў маім жыцці, і я цалкам аддаўся беларускай справе і беларускай літаратуры.» (Я. Колас. Аўтабіяграфія. Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Менск 1927 год. с. 10). Праўда, што ў матэрыялах многіх беларускіх пісьменнікаў — Купалы, Коласа, Бядулі можам знайсці выключна адмоўныя ацэнкі ідэйнанацыянальнага напрамка «Нашай Нівы», беларускіх дзеячоў, з ёю звязаных, і сваёй творчасці. Аднак матэрыялы гэтыя паявіліся ў суровую эпоху культу асобы, калі шчырасць была галоўным грэхам чалавека. І відаць таму крытыкі-апазіцыяністы «Нашай Нівы» не асмельваюцца прыводзіць іх у сваіх публікацыях, хаця матэрыялы гэтыя вельмі добра ілюстравалі б іх тэзісы.

Мы, у след за ўсёй беларускай савецкай крытыкай 20-х гадоў і ў след за некаторымі даследчыкамі пасляваеннага перыяду мусім сказаць, што «Наша Доля» і «Наша Ніва» становяць адну з найяснейшых старонак у гісторыі беларускай культуры і літаратуры, адну са старонак, якую смела можам раскрыць перад усімі суседзямі і быць перакананымі, што ні адзін з іх не знойдзе ў ёй варожых і непрыхільных сабе слоў. Гэты інтэрнацыяналістычны аспект беларускага нацыянальнага руху заўважаны і адобраны польскімі даследчыкамі (Вагнаровіч, Бараноўскі, Жыранік) і рускімі прагрэсіўнымі дзеячамі — вучонымі (Пагодзін, Аўсяннікаў, Кулікоўскі, Клейнборт) не можа не цікавіць беларускіх крытыкаў, якіх таксама павінна маніць аб'ектыўная праўда. На гэтую праўду ўсё яшчэ чакае «Наша Ніва».

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

## Трактар — гэта яшчэ не ўсё

Распрадана каля шасцісот трактараў і... шэсцьдзесят сеялак, у тым ліку некалькі сеялак да рассявання штучных угнаенняў. Гэтыя даныя выяўляюць не абы-які парадокс ў механізацыі нашай сельскай гаспадаркі на Беласточчыне, бо сеялак у беларускіх вёсках амаль не відаць зусім. Пыхкаюць на палях трактары, а людзі абсяваюць поле «з плахты», як за дзеда-прадзеда. З той жа «плахты» высяваюць і штучныя ўгнаенні.

Напрыклад, у Рыбалах іржавее пару сеялак. Кажуць, за вузкія для іх загоны, усяму перашкода — славутая цераспалосіца. Але чым жа вытлумачыць слабую куплю сеялак у тых вёсках, дзе адбылася камасацыя? Думаю, можна вытлумачыць гэты факт толькі нізкім узроўнем гаспадарання, нягледзячы на тое, што ў вёсцы даўно паявіліся трактары, якія найчасцей выкарыстоўваюцца... для транспарту. (ся)

# БОЦЬКАЎСКАЯ КРЭПАСЦЬ

У адзін са студзеньскіх дзён 1945 года камендант пастарунку ў Боцьках А. Пухальскі перадаў паведамленне наступнае ў павет: «Уначы з 5 на 6 студзеня 1945 г. банда напала на пастарунак МО ў Боцьках, але яго не здабыла. Бандыты расстралялі на вуліцы міліцыянера Аляксандра Лукасюка. Забілі таксама Віктара Зялінскага з вёскі Якубова гміны Бельск, двух людзей з павета Бельск, солтыса з Якубова і яго жонку. Банда схавалася ў лесе. Просім дапамогі».

Падобных паведамленняў у гэтым жа годзе прыходзіла яшчэ многа. 20 лютага 1945 года загінулі, абараняючы пастарунак, вышэй успамянуты камендант і тры міліцыянеры. Але намер бандытаў быў адназначны: як справу свайго гонару вырашылі яны ліквідаваць пастарунак у Боцьках. Не маглі яны сцярпець. што сюды прыдзе і будзе ўрадаваць народная ўлада. Міліцыянеры — экіпаж пастарунку вырашылі, што б там ні стала, утрымацца, хоць бы і коштам свайго жыцця.

Аддавалі жыццё. У маі 1945 года бандыты падпалілі будынак з міліцыянерамі. У полымі гаручага пастарунку загінулі трое, астатніх дабілі прыкладамі. Некалькі дзён пазней бандыты застрэлілі 11-гадовага Стася Зялінскага, сына міліцыянера, застрэленага ў студзені, за тое, што паказаў дарогу, кудою ўцякалі бандыты.

У Боцьках загінула 27 міліцыянераў. Гінулі адны, — прыходзілі іншыя, каб запэўніць бяспеку народнай уладзе і помсціць сваіх сяброў, тых з Боцек, і 250 членаў ППР, міліцыянераў і беспартыйных, якія загінулі ў Бельскім павеце.



**На здымку: Дом міліцыянера ў Боцьках.**

Усё гэта мінулае. Але памяць аб іх не загіне ў народзе. Аб іх павінны ведаць і тыя, хто не перажыў гэтага наглядна, — моладзь. Грамадскасць Бельшчыны як выраз сваёй памяці аб загінуўшых змагарах за народную ўладу пабудавала ў Боцьках помнік — **Дом міліцыянера.** Ён пабудаваны са складчын гаспадароў, рабочых, працаўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, міліцыянераў і пры дзяржаўнай дапамозе. Нельга не адзначыць. што гэта другі ў Польшчы такога тыпу помнік.

Праектанты і арганізатары пабудовы Дома міліцыянера ў Боцьках прадбачылі тут памяшканні не толькі на пастарунак і кватэры для міліцыянераў, але святліцу і (што вельмі цэннае) **Музей памятак барацьбы міліцыянераў з Боцек і Беластоцкага ваяводства.** Ёсць тут здымкі забітых, самаробная зброя, якою карысталіся бандыты, здымкі і фотакопіі з архіваў, дакументы і загады злачынстваў. Цікавая частка гісторыі змагання як для маладых, так і для старэйшых. **А. Кар.**

фота аўтара




**На здымку: Экспанат выстаўкі.**

**рэвальвер. Калі б гестапавец убачыў, як задрыжэла мая рука, ён мог бы здагадацца, што нешта няладнае творыцца з панам палкоўнікам. Але ён у гэты час глядзеў на Чарнавочку, як каршун, чакаючы свежай крыві.**

**Чарнавочка раптам падняла свае вачаняты ды з такой агідай зірнула на мяне, што я ледзь не самлеў. Канешне, яна не пазнавала мяне, ды каб і пазнала, не паверыла б вачам сваім, бо ў такім выглядзе і ў такім месцы сустрэцца са мною, вядома, не спадзявалася.**

**Я раптам апусціў рэвальвер.**

**— Ведаеце што, — кажу гестапаўцу: — мне прышла ў галаву забаўная думка: навошта пляміць падлогу? Я ж магу зрабіць гэта на лоне прыроды, з дальняга прыцэлу. Тады атрымаю поўнае задавальненне.**

**— Гэта можна, пан палкоўнік, — адказаў гестапавец. — Толькі дазвольце ўзяць узвод аховы.**

**— Навошта?**

**— Небяспечна без аховы за горадам... Бачу, справа дрэнь. Згадзіцца на ахову, гэта значыць рызыкаваць і Чарнавочкай, і сваім жыццём. Праўда, мой прыезд ужо быў рызыкай. Аднак пакуль што я сяк-так спраўляўся з сваёй роляй. І тут я парашыў: лепш рызыкаваць у кабінеце каменданта, дзе, апрача нас, нікога няма, чым пры ўзводзе салдат.**

**Я глянуў на свайго ад'ютанта. Гэта быў умоўны сігнал.**

**— Добра, — адказаў я каменданту. — Возьмем ахову. Гестапавец павесялеў.**

**— Калі загадаеце адправіцца?**

**— Праз пяць хвілін.**

**— Ён казырнуў і адвярнуўся да тэлефоннай трубкі. У гэты ж час камендант і асунуўся, як мяшок. Сашаў кінжал прамаху не даў: трапіў якраз у такое месца, што абышлося без крыку...**

**— Пайшлі, Чарнавочка! — сказаў я сваім звычайным голасам. Якое было яе здзіўленне ў той міг, я не заўважыў, бо мы тут жа пакінулі кабінет.**

**Патруль, што стаяў на дварэ, узяў на караул, прапускаючы важнага госця. Машына наша была напагатове. Мыселі ў яе, і шафёр уключыў поўную хуткасць.**

**На гэтым Іван Рыгоравіч спыніў апавяданне. Абвёў вачыма клас: слухачы сядзелі не зварухнуўшыся.**

**Але тут раптам усе дружна загаманілі:**

**— Расказвайце, расказвайце далей, Іван Рыгоравіч!**

**Настаўнік махнуў рукою, сцішыў шум.**

**— Далей было тое, аб чым вы ўжо здагадваецеся. Толькі можа крыху не зусім так, як вам здаецца. За горадам мы зноў трапілі ў небяспеку: патруль даў сігнал спыніць машыну... «Можа паспелі аддаць загады на караульныя пасты аб нашым арышце?» — мільганула ў мяне думка. Звычайнай праверкі я не баяўся — з маімі дакументамі можна было ездзіць дзе хочаш. «Поўны ход!» — загадаў я шафёру. Не лёгка было мне аддаваць такі загад. Гэта значыла, што мы трапляем з агню ды ў полымя: у такім разе патруль мае права страляць. Ваяваць з ім не хацелася: наробіш лішняга шуму, а перад намі яшчэ вялікая дарога. І калі мы праскачылі міма патруля, ён сапраўды адкрыў агонь. Потым я шкадаваў, што не ўбралі патруля адразу. А так... Сашу мы дамчалі ў атрад з куляй у плячы... Але ўсё ж мы выратавалі любіміцу атрада. А чаму гэта мне ўдалося? На гэта пытанне адкажа нам Коля ў наступны раз.**

**Алесь Якімовіч**

1. Ці меў рацыю Коля, дзелячы школьныя прадметы на патрэбныя і непатрэбныя?
2. Дзякуючы чаму ўдалося Івану Рыгоравічу выратаваць Чарнавочку?
3. Ці мы павінны вывучаць замежныя мовы толькі таму, што гэта можа нам прыдацца ў час вайны?

**ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ**

**Вучыся змоладу, то на старасць як знойдзеш.**
**Вучыцца ніколі не позна.**
**За грошы розуму не купіш.**

(Працяг са стар. 1)

## ТРАДЫЦЫЯ ЦІ СУЧАСНАСЦЬ?

ўзнікне новых клубаў «Руху» і ГС.

— Як вы бачыце БГКТ і яго месца ў агульным культурным руху? Многа гаворыцца аб супрацоўніцтве.

— Яно неабходнае!

— А як дагэтуль выглядала?

— Былі перыяды лепшай і больш сціслай працы. А наогул супрацоўніцтва такое існуе. Цяпер маем час, калі трэба узяць пад увагу новыя патрэбы. Трэба таварыству памагчы ў развіцці чытальніцтва і музейнага руху, парад і рэпертуару.

— Ці бачыце вы цяпер патрэбу развязаць з Беларускім Таварыствам пытанне супрацоўніцтва і супольнай дзейнасці ў новым святле?

— Спатканне такое павінна адбыцца і даць ацэнку ўласную, тут, нашую, без умяшання вышэйшых, пазабеластоцкіх органаў. Мы ведаем сітуацыю найлепш і мы самі супольна будзем развіваць працу і супрацоўніцтва.

**Вера Леўчук**



 



**Піраміда Мікерына. Каб перавезці камені, з якіх яна збудаваная, спатрэбілася б каля дваццаці тысяч вялікіх таварных эшалонаў.**

# ЕГІПЕЦКІЯ ЦУДЫ

Калі б спытаць падарожніка, які зведаў увесь свет і бачыў вялікія будоўлі, — якая будоўля пакінула на ім найбольшае ўражанне, адкажа: піраміды ў Гіза. Гэты падарожнік скажа вам праўду, бо здзіўленне, якое некалі агарнула войскі Напалеона, якія заваявалі Егіпет, удзяляецца кожнаму, хто пабачыць піраміды. Гэтыя велізарныя будоўлі з'яўляюцца каштоўнымі забыткамі культуры старажытнага Егіпта. Найбольш вялікай пірамідай лічыцца піраміда фараона Хеопса. Піраміды знаходзяцца на захад ад Каіра — і далёка на поўдні аж да Судана. Разам налічана ў Егіпце звыш сямідзесяці пірамід, але ніхто не ведае, колькі іх яшчэ знаходзіцца пад пяскамі пустыняў. Вядома, што пустыні засыпаюць нават найбольшыя будоўлі.

Піраміды будавана для пахавання памёршага фараона. Кожны егіпецкі кароль, званы фараонам, будаваў сабе піраміду яшчэ задоўга да сваёй смерці. Егіпцяне верылі ў жыццё на тым свеце і лічылі, што тое жыццё нічым не адрозніваецца ад зямнога жыцця — наадварот, што яно больш раскошнае і выгаднае. Егіпцяне верылі, што душа можа аб'яднацца з памёршым целам і таму прыдавалі вялікае значэнне забеспячэнню цела ад гнілі. У Егіпце вельмі высока развілося ўменне бальзамаваць цела, каб душа магла пазнаць яго. У пірамідзе знаходзяцца патрэбныя памяшчэнні для замагільнага жыцця...

Як будаваліся піраміды? Гэтае пытанне найбольш цікавіць кожнага, бо вядома, што ў старажытныя часы, пару тысяч год таму назад, не існавала такая тэхніка, як цяпер.

Напрыклад, піраміда Хеопса складаецца з двух і чвэрць мільёна каменных блокаў, а кожны такі блок важыць па сем з паловаю тон. Вышыня гэтай піраміды — 146 метраў! Напалеон, будучы ў Егіпце, падлічыў, што ў пірамідзе Хеопса і бліжэйшых яе суседках знаходзіцца столькі камення, якога хапіла б каб пабудаваць мур вакол Францыі вышынёю тры метры і таўшчынёю адзін метр.

Цяжка нават падумаць, колькі спатрэбілася тут чалавечай працы, каб пабудаваць такую будоўлю. Егіпцяне будавалі іх вельмі простым спосабам. У каменяломнях і на пляцы будовы рабочыя ўжывалі медных долатаў (жалеза тады было бадай яшчэ зусім невядомае). Рабочыя ўжывалі таксама прыладаў з крэменю. Больш «цвёрдых» прыладаў не ведалі. Каменныя блокі транспартавалі на драўляных санях або бярвеннях, гладка падцесаных. Кароль выбіраў месца пад будову піраміды сабе, абавязкова на захад ад ракі Ніл і на нейкім узвышшы. Уваход у піраміду знаходзіцца заўсёды ў напрамку палярнай зоркі.

Блокі з далёкіх каменяломняў сплаўляліся на плытах па рацэ Ніл і выгружаліся паблізу будовы піраміды. Да транспарту ўжываліся валы, але найчасцей цягалі блокі людзі. Бадай ніколі не даведаемся, колькі загінула народу ў час будовы. Абяссіленыя жудаснай працай людзі не зварочвалі ўжо ўвагі на аслабеўшых і ўпаўшых пад сані або бярвенні, на якіх транспартаваўся блок. Наглядчыкі былі суровымі, непадатлівымі на людскія трагедыі, якія разыгрываліся ў несамавітай сітуацыі. У меру таго, як піраміда «расла» ўгору, абсыпалі яе зямлёю, каб магчы ўцягваць сямітонныя блокі на верх. Пасля заканчэння будоўлі піраміду адкопвалі, ачышчалі. Зямля кішэла ад ўціснутых людскіх трупаў.

Будоўля піраміды цягнулася вельмі доўга. Напрыклад, піраміду Хеопса будавалі трыццаць год! Піраміда Хеопса з'яўляецца найбольшым дасягненнем будаўніцтва ў старажытным Егіпце. Дзякуючы дасканаламу выканчэнню і прыгажосці прапорцый залічана яна да сямі цудаў свету.

У пірамідзе старажытнага часу працавала многа людзей, святароў, лекараў, стражнікаў, пісьменнікаў, майстроў «таямніц». Памёршы фараон павінен быў чуцца так, як пры жыцці. (а-ся)

## Сінгалескія ювелірныя вырабы

*На Цэйлоне можна спаткаць дзяўчат і жанчын, якія пры святочных сукенках носяць нашыйнікі з вісёркамі, якія прадстаўляюць сабой 5 прадметаў: меч, дыск, ракавіну, лук і стралу.*

*Гэты традыцыйны састаў з'яўляецца цяпер толькі аздобай, у мінулым быццам бы ахоўваў яго ўласніцу ад няшчасцяў, таму што гэтыя пяць прадметаў — гэта аружжа бога Шывы.*

*На здымку бачым дзяўчыну вось з такім нашыйнікам.* (мф)



## АБ ФІЛЬМЕ

**«ВЕРНАСЦЬ»**
**(Дні савецкага фільма)**

Гэтым фільмам пачаліся ў гэтым годзе Дні савецкага фільма, якія працягваюцца ад 4 лістапада. У тэрэн савецкія фільмы трапляць пазней, а ў сувязі з тым фактычна і «Дні» тут будуць пазней.

Справа ў тым, каб новыя савецкія фільмы ўбачыць. А варта!

Такая адна «Вернасць». Фільм гэты атрымаў узнагароду «Опера Прыма» ў 1965 г. у Венецыі (за найлепшы дэбют). Рэжысёр Пётр Тадароўскі. Пабачыўшы фільм «Вернасць», верыцца, што пачуем аб ім у будучым не раз.

«Вернасць» — гэта ваенная драма, паэтычны расказ аб 18-годках, якім давялося жыць і змагацца ў цяжкія гады.

Іншыя фільмы, якія пабачым у час «Дзён».: **«Ніхто не хацеў паміраць»** — літоўскі фільм аб першых паваенных гадах на Літве. Фільм атрымаў аж 8 узнагарод, м. інш. за найлепшую мужчынскую ролю ў Карлёвых Варах, I узнагароду сярод фільмаў на сучасную тэму, узнагароду за найлепшы сцэнарый і рэжысерыю.

**«Першая Бастылія»** — повесць аб юнацкіх гадах Леніна.

**«Жанчыны»** — мы пісалі аб гэтым фільме раней.

**«Рана ранкам»** — драма паводле аповесці Веры Панавай, якая расказвае пра маладых людзей і іх учынках, пераняты ад старэйшых.

**«Самотная»** — расказ аб гераічнай лётчыцы, якая ў мірны час не ўмее знайсці свайго месца ў жыцці.

**«Хакеісты»** — нешта са спорту.

**«Казка пра Мароза Чарадзея»** (для дзяцей і моладзі). Фільм атрымаў узнагароду за найлепшую рэалізацыю і за каляровыя здымкі на Міжнародным фестывалі ў Мар дэль Плата ў 1965 г.

**«Звычайны фашызм»** — рэжысёр Міхаіл Ром. Дакументальны фільм, паказвае па-новаму істоту фашызму. Тут выступаюць раздзелы аб гісторыі, арганізацыі, злачынствах і пагібелі гітлерызму. Спецыяльная ўзнагарода журы і фільмовай крытыкі ГДР на VIII Міжнародным фестывалі дакументальных фільмаў у Лейпцыгу 1965 г.

Фота з «Вернасці» — героі — Зоя і Нікіцін.



# ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ „П-Т-ІКС"

Й ГОРНУНГ

**АПЕРАЦЫЯ «ЗДАНЬ»**

**25 верасня 1942 года «Жыльбер» крыху раней закончыў работу ў фірме і накіраваўся ў свой тайны кабінет. Становішча было вельмі сур'ёзнае. Усёй арганізацыі пагражала велізарная небяспека. Звесткі, атрыманыя з Берліна ад глыбока законспіраванага агента, які працаваў у ведамстве бяспекі рэйха, сведчылі, што гестапа і абвер прыступілі да рашаючай акцыі супраць арганізацыі «Жыльбера». Гестапа арыштавала «Кора» і некалькі яго супрацоўнікаў.**

**«Жыльбер», апасаючыся выкрыцця, зрабіў ужо ўсе неабходныя захады для запэўнення бесперапыннасці працы ўсёй разведвальнай арганізацыі. Дзюпон пасля выезду з Бельгіі і інсцэніроўкі сваёй смерці дзейнічаў цяпер на поўдні Францыі пад фальшывым прозвішчам паўднёва-амерыканскага грамадзяніна Алонса дэ Парэнтэса, арганізоўваючы запасную сетку сувязі. Сам «Жыльбер» меў намер перабрацца ў Швейцарыю або адну з балканскіх краін, акупіраваных немцамі.**

**«Жыльбер» падышоў да сейфа, адключыў аўтаматычны механізм, які знішчыў бы ўсе дакументы ў сейфе, калі б яго паспрабаваў адчыніць хто-небудзь непажаданы, і выняў некалькі лісткоў паперы, спісаных ад рукі дробным почыркам. Гэта былі апошнія ўказанні і загады з цэнтра.**

**«Жыльбер» замкнуў сейф і накіраваўся ў свой яўны кабінет. Праз хвіліну туды ўвайшоў і «Сюшэ». «Жыльбер» заўважыў, што яго сакратар быў усхваляваны**

**— Што-небудзь здарылася? — спытаў ён.**

**— Так, — хутка адказаў «Сюшэ». — Нашы людзі паведамляюць, што ўжо некалькі дзён за імі сочаць нейкія падазроныя тыпы, частка якіх круціцца паблізу нашай фірмы.**

**— Я чакаў гэтага, — спакойна сказаў «Жыльбер». — Сёння мы ліквідуем наш «Малы цэнтр» і перанясём яго ў іншае месца. Калі здарыцца што-небудзь непрадбачанае, працу будзе працягваць запасная сетка. Я толькі думаю, дзе ж слабое звяно нашай сістэмы сувязі? Колькі ў нас зараз станцый?**

**«Сюшэ» на хвіліну задумаўся.**

**— Сорак восем. З іх працуе 24, рэшта — у рэзерве.**

**— Значыцца, 8 груп сувязі, прычым адна з іх працуе заўсёды на адным і тым жа месцы і ў той жа час. Іменна ў гэтым памылка. Ці можаце вы сказаць, колькі мы перадалі рапартаў у Цэнтр за гэты месяц?**

**— Каля 500. З іх 160 асабліва важных. Большасць звестак атрымана ад «Петэрса», які некаторыя важнейшыя даныя пасылае ў Цэнтр непасрэдна ад «Зауэра», «Эдвардса», які пасля пераводу з ОКВ працуе зараз у штабе абвера, і ад некаторых іншых.**

**— Як працуе ў апошні час «Зауэр?**

**— Вельмі добра. Яму ўдалося здабыць дакументацыю і схемы наконт вытворчасці таго новага знішчальніка, аб якім мы паведамлялі «Цэнтр» некалькі месяцаў назад.**

**Даныя, якія прыслаў «Зауэр», мелі вельмі вялікае значэнне, і «Жыльбер» загадаў неадкладна перадаць іх «Цэнтру», карыстаючыся запасным перадатчыкам, схаваным у пэўнай мясцовасці пад Парыжам.**

**Адначасова «Жыльбер» загадаў «Сюшэ» паведаміць «Цэнтр» аб увядзенні ім новай сістэмы сувязі, мэтай якой была дэзарыентацыя праціўніка і яго пеленгатараў.**

**Пасля абмеркавання спраў, звязаных з рэарганізацыяй усёй разведвальнай сеткі, «Жыльбер» знішчыў дакументы, якія знаходзіліся ў тайным кабінеце, развітаўся з «Сюшэ», з якім яны павінны былі спаткацца праз некалькі дзён ва ўмоўленым месцы, сеў за перадатчык і ўласнаручна выслаў у эфір апошняе данясенне:**

**«Пераходжу на аперацыю «Здань». Хвіліну ён счакаў на прыёме, пакуль «Цэнтр» не пацвердзіў атрыманне шыфраграмы, потым уключыў самазнішчальны механізм і бакавым выхадам праз туалет і суседні двор пакінуў свой кабінет.**

**Праз два дні ў будынак увайшлі супрацоўнікі гестапа. Пакоі фірмы пуставалі...**

**ЭПІЛОГ**

**30 студзеня 1943 года палкоўнік Ягораў сустрэўся з Салаўёвым, якога не бачыў ужо некалькі тыдняў, з таго часу, як таго паслалі на выкананне другіх заданняў. Сустрэча адбылася недалёка ад Сталінграда, і абодва афіцэры накіра-**

